*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 1(109) ◈ 6 студзеня 1993 г. ◈ Кошт па дамоўленасці. (Па падпісцы — 80 кап.)

## *З Новым годам, з Калядою!*
## *Хай збываецца святое,*
## *Што задумана — прыдбаецца,*
## *Наша мова адраджаецца!*

### Пад Новы год

*На крыллях сціплых мар,*
*Лунаючы над краем,*
*Пад Новы год хачу*
*Радзіме пажадаць*
*Багацця і дабра,*
*На таленты ўраджаю,*
*А мове сапраўды*
*Дзяржаўнай ўрэшце стаць!*

*Васіль СУПРУН.*

## ПОСТУП ТЫДНЯ



***31 СНЕЖНЯ ВАЙСКОЎЦЫ — ГРАМАДЗЯНЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПРЫНЯЛІ ПРЫСЯГУ НА ВЕРНАСЦЬ СВАЙМУ НАРОДУ.***

**На 1 студзеня 1993 года Рэспубліку Беларусь прызналі 108 дзяржаў, а з 68 РБ устанавіла дыпламатычныя адносіны.**

***ПАЛІТЫКАМ ГОДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СТАЎ СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ. Яго сярэднегадавы рэйтынг — 33,6 %. На другім месцы лідэр парламенцкай апазіцыі Зянон Пазьняк — 6,6%. На трэцім — Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч — 4,7%.***

**• ЭКАЛАГІЧНАЯ КАМІСІЯ ПРЫ САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АБМЕРКАВАЛА ПЫТАННЕ АБ СТВАРЭННІ Ў БРАСЛАЎСКІМ РАЁНЕ ПЕРШАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА ПАРКУ. ЁН ЗОЙМЕ ТЭРЫТОРЫЮ КАЛЯ 55 ТЫСЯЧ ГЕКТАРАЎ.**

***На чарговым пасяджэнні кіраўнікоў Беларуска-італьянскага партнёрскага фонду прынята пастанова выдзеліць з рахунку гэтай арганізацыі 40 мільёнаў рублёў на дапамогу ўстановам аховы здароўя Беларусі.***

## *ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ!*

*Супрацоўнікі «Нашага слова», а таксама сябры рэдакцыйнай калегіі і Сакратарыят рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы сардэчна віншуюць Вас з Новым годам, з Калядамі! Няхай у Вас усё будзе добра — і ў сям'і і на працы, моцнага Вам здароўя і поспехаў у задумах. Усе мы пражылі нялёгкі год, але ж не прапалі. Спадзяёмся, не прападзём і надалей, калі будзем трымацца разам, адной, як кажуць, сям'ёй. Шчыра дзякуем, сябры, за падтрымку «Нашага слова». Мы пастаянна яе адчувалі. Прыемна, што практычна амаль усе падпісчыкі «Нашага слова» засталіся вернымі газеце. Дабавіліся і новыя. Іх каля дзвюх тысяч. Вітаем іх. Будзем разам, сябры, працаваць на ніве Адраджэння — за развіццё культуры і мовы роднай Беларусі, без чаго, як паказвае сусветная практыка, не можа быць і дабрабыту эканамічнага.*

*Жыве Беларусь!*

## Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада — за дабрабыт народа і нацыянальнае Адраджэнне

Гэта вызначана ў праграме партыі БСДГ, якую зацвердзіў II з'езд. Як паведаміў дэлегатам з'езда член Цэнтральнай рады Грамады, народны дэпутат Беларусі Яўген Цумараў, плённай была дзейнасць парламенцкай фракцыі БСДГ (11 дэпутатаў). Яна выступіла з шэрагам важных заканадаўчых ініцыятыў — у распрацоўцы новай Канстытуцыі, законаў аб працы, прафсаюзах, прыватызацыі жыллёвага фонду, адукацыі, культуры, а таксама роднай мовы. У склад кіруючых органаў БСДГ увайшло нямала сяброў Таварыства беларускай мовы, у тым ліку народны дэпутат Беларусі Алег Трусаў, які абраны старшынёй Цэнтральнай Рады.

***Шаноўныя сябры рэспубліканскіх газет і часопісаў!***

***Сёння Вы атрымалі першы нумар газеты «Наша слова». Не здзіўляйцеся. Яна не з неба звалілася. Газету выпісалі для Вас ТБМ імя Ф. Скарыны і рэдакцыя дзеля таго, каб Вы, нашы сябры і калегі, мелі сістэматычную інфармацыю аб дзейнасці Рэспубліканскай Рады ТБМ і суполак Таварыства. Разлічваем, што і Ваша выданне далучыцца да нашых клопатаў па адраджэнні Роднай Мовы. Карыстаючыся выпадкам, віншуем Вас з Новым Годам і Калядамі.***

Сакратарыят ТБМ імя Ф. Скарыны.
Рэдакцыя газеты «Наша слова».

## Каляды

**Прыйшлі Каляды ды не ўсе ім рады.**
**Святочнага ў жыцці амаль нічога.**
**На нашых сценах рускія плакаты**
**І ў Божы Храм засмечана дарога.**
**І чэргі звар'яцелыя — у крамы,**
**І просьбы, і праклёны, і абразы.**
**І ты ў натоўпе, як усе, таксама —**
**Жыве шчэ бальшавіцкая зараза —**
**Крычыш. Але чаго крычыш — ці знаеш?**
**Ты вырвешся з натоўпу, і ў Каляды**
**Казу па гурбах прывядуць да хаты**
**Сябры твае, якіх ты не чакаеш.**
**... А белы снег сваёю чысцінёю**
**Хавае чарнату, сляды чужыя.**
**І пад каляднай зоркай залатою**
**Мы бачым зноў, што мы яшчэ жывыя,**
**І нас нямала на зямлі Айчыны,**
**Што верылі і вераць у святое.**
**І ў нашых душах божыя радзіны,**
**І мы глядзім у Заўтра маладое,**
**Дзе тупае Каза ля кожнай хаты...**
**Але пакуль адны мы, як вар'яты,**
**Вядзём Казу і свята песняй будзім,**
**І стомленыя радуюцца людзі,**
**І вецер рве чужацкія плакаты.**

**В. Ш.**



Мінулы год прайшоў у трывогах, мітынгах і спадзяваннях. Што ж прынясе нам 1993 год?

Фота А. ВАШКЕВІЧА.

# Будзе храм — будуць і людзі

Хай не здасца каму недарэчным, калі я напішу пра беларускае Адраджэнне ў чарнобыльскай зоне Гомельшчыны. Але гэта сапраўды так: радыяцыйная бяда неяк асабліва абвастрыла пачуццё прыязні да родных мясцін, звычаяў ды і роднага слова. Шмат дзе людзі, якія напачатку згадзіліся перасяляцца ў іншыя месцы, цяпер імкнуцца вярнуцца назад, нягледзячы на небяспеку.

Спрадвеку вядома: дзе людзі вырашылі абжывацца стала, там яны будавалі не толькі добрыя сялібы, але і храмы. А ў нядаўна пакінутых Жалезніках — адным са старажытнейшых паселішчаў Беларусі — царкву аднаўляюць. Пабудавалі храм і ў Стоўбуне, што славуты сваімі майстрыхамі. Будуецца ён і ў Нямках.

А ў Ветцы дбаюць пра свой адметны музей. Яго ў «цэнтр» веткаўчане не аддалі. «Тут жывём, тут няхай і наша будзе»,— сказалі рашуча. Сапраўды, толькі ў злітнасці з гэтай зямлёй і яе насельніцтвам поўнасцю раскрываецца сэнс мясцовага мастацтва.

Тым часам будуецца і Добруш. Дбаюць пра храмы, дбаюць пра сваю культуру і мову яго жыхары. На базе сярэдняй школы адчынены першы гарадскі ліцэй.

«Мёртвая» зона змагаецца за жыццё.

**Арыя ГАТАЛЬСКАЯ.**

г. Гомель.

*Мы і мова*

# Крытэрыі жыцця

З'явіліся першыя публікацыі пра тое, што гаварылася і рашалася на рэспубліканскай канферэнцыі «Праблемы беларускага правапісу». Не хацелася б, аднак, каб следам пайшлі «валявыя рашэнні», як бывала раней. Правільна піша ў «Нашым слове», № 5, А. А. Лукашанец: «Нельга дапусціць, каб любыя змены, нават калі яны прадыктаваны найлепшымі намерамі, адштурхнулі ад беларускай мовы тых, хто зараз ёю карыстаецца». Але і нельга далей пакідаць у мове тыя з'явы, якія літаральна калечаць яе сёння. Галоўная з іх — разбурэнне асноўнай характэрнай рысы беларускай мовы — якання. У сучасным беларускім правапісе ўкаранілася ненаціскное «е» (пакінем убаку канчатак «-е» ў 3-яй асобе, а таксама поўнаціскное «е»). Сустракаем напісанне «дзевяць», «семнаццаты». Насуперак ладу жывой беларускай мовы, дзе гучыць «дзяваты», «сямнаццаты». Асабліву шкоду натуральнаму ладу мовы наносіць «не» і «без» не пад націскам. Можна сустрэць узапар два ненацісныя склады, у якіх напісана «е»: «цецерукі», «Як маецеся?» Але ненаціскная літара «е» — гэта характэрная рыса рускай мовы, дзе, дарэчы, яна звычайна чытаецца як і (и). І калі дзіця ці дарослы чалавек пачынаюць вывучаць беларускую мову з гэтымі ненаціскнымі «е», то яны, звычайна знаёмыя з рускай мовай, чытаюць беларускі тэкст на рускі манер, г. зн. яканне вынішчаецца.

А што магло б адштурхнуць ад беларускай мовы? Па-першае, механічны пераход на тарашкевіцу. Тарашкевіца — гэта наш скарб, наша багацце, наш гонар. Павага таму, у каго хапіла мужнасці друкаваць выданні на тарашкевіцы. Але сёння яна можа засланіць ад нас мову класікаў беларускай літаратуры, мову Я. Купалы, Я. Коласа, мову, на якой менавіта сёння мы павінны хутка пашырыць навучанне і выхаванне беларусаў. У тарашкевіцы трэба баяцца паланізмаў, бо ўжо сёння ў сучасных выданнях пад прыкрыццём яе ўжываюцца яўныя паланізмы. Няхай тарашкевіца існуе, але і яе трэба ўдасканальваць.

Яшчэ адштурхнуць ад мовы можа залішняе ўжыванне мяккага знака ў словах тыпу «жыццё», «адзеньне» і інш. Як бы ні хацелася цвёрда вымавіць першую літару «ц» у слове «жыццё», гэта немагчыма, бо аб'ектыўна існуе закон рэгрэсіўнай кансанантычнай асіміляцыі, у дадзеным выпадку па мяккасці, які робіць першае «ц» мяккім і без знака (гл. Ассимиляция: «Лингвистический энциклопедический словарь», Москва, 1990 г. ст. 48). Давайце не будзем ускладняць простую рэч.

Пра правапіс многа дыскутуюць. Есць многа прапаноў і вельмі суб'ектыўных. Але давайце не адрывацца ад жыцця. Існуе жывая беларуская мова, і яе трэба паважаць, правільна адлюстроўваць у напісанні, каб няправільнае напісанне не губіла яе, жывую.

**Кастусь ЛУСТАЧ.**

п. Умба Мурманскай вобл.

# НА РОДНЫХ

***Гэтыя замалёўкі напісаў яшчэ тады, калі не быў прыняты вядомы Закон аб мовах. Думаў, што пасля надання беларускай мове статуса дзяржаўнай іх прыйдзецца пакласці ў архіў. Ды, на жаль, моўная сітуацыя ў Слоніме, як, мне думаецца, і ў іншых гарадах Беларусі, не змянілася. Наменклатура знарок тармазіла працэс Адраджэння, а цяпер, лічу, стараецца паціху павярнуць яго назад, думаючы, што інтэлігенцыя супакоілася, «выпусціла пар».***

### МОЖНА, АЛЕ...

На роднай мове ў сваім Слоніме звяртаюся да прадаўца. Яна нейкі час глядзіць на мяне, як бы вывучаючы.

— Вы мяне не разумееце? — пытаюся.

Жанчына-прадавец, вядома ж, на рускай мове адказвае:

— Разумею.

Краечкам вока заўважаю, што да мяне цiснецца жанчына гадоў пяцідзесяці, за ёю — мужчына...

Неўзабаве каля мяне шчыльнае людское кола. «Іншапланецяніна ўбачылі»,— мільгае ў галаве.

— На беларускім языку гаворыць! — не стрывала жанчына.

У ёй ёсць нешта ўзнёсла-наструненае. А мо сам падобны на дзівака?

— Дык што? — кажу.

— Вы, напэўна, з Мінска? — цікавяцца.

Зашчымела на душы.

— Хіба беларускую мову са сталіцы, бы пернікі, прывозяць? — жартую.

— Але ж... — жанчына ўсміхаецца.

— Чыста вымаўляе словы,— басам гудзіць мужчына.

— Мы ж у Беларусі. Хіба і тут не можна чыста гаварыць па-беларуску? — міжволі вырываецца ў мяне.

— Можна. Але ж...

Чаму яны так? Што яно значыць — гэтае «але ж»?

Азіраюся. Мажліва, нехта дапаможа мне знайсці адказ? Усе моўчкі не спускаюць з мяне вачэй. Відаць, чакаюць, што скажу нешта незвычайнае. Развітваюся і выходжу на вуліцу. На душы прыкра. Дык хто я ў сваім горадзе?

### РАЗМОВА ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІСТА З НАЦЫЯНАЛІСТАМ

Еду з дачы. Разгаварыўся з гэтакім жа дачнікам. Той расказвае: служыў у войску, на пенсію пайшоў маёрам і застаўся на Беларусі. А нядаўна ездзіў у госці, да сябе на радзіму, у Расію. З нейкай асаблівай злосцю заўважае:

— Гіне вёска. Хаты разбураюцца. Нават могілкі спалілі. Старыя жывуць у страху. Не ведаюць, хто пахавае, калі памруць.

Доўга апавядае пра тое, як нейкі доктар падмануў адзінокую настаўніцу-пенсіянерку, якая, прадчуваючы смерць, папрасіла яго, каб пахаваў. За гэта дала немала грошай. А потым той доктар сказаў, што грошай і ў вочы не бачыў. Адмовіўся хаваць.

Я так і не даведаўся, што сталася з няшчаснай нябожчыцай, бо мужчына раптам сказаў:

# «КАРОТКІЯ ПЯТЫ» ДОЎГІХ ХВАЛЯЎ

Прыемна, што чытачы «Нашага слова» адгукнуліся на маю публікацыю «Акупаваны эфір». Мы мусім як мага хутчэй вызваляцца ад імперскіх путаў, і сродкі масавай інфармацыі маюць тут найважнейшае значэнне. Парадак у эфіры трэба наводзіць не толькі на сярэдніх, але і на доўгіх хвалях. Што ж на іх чуваць у беларускай глыбінцы, прыкладам, на Браслаўшчыне?

Да апошняга часу на гэтым дыяпазоне працавала адна беларуская станцыя ( першая праграма радыёвяшчання). Паралельна нядаўна тут з'явілася яшчэ адна станцыя, якая ў пэўныя гадзіны перадае другую беларускую праграму, астатні ж час запоўнены расійскім «Маяком». Мала таго, што гэтая станцыя працуе са «свістам», які адбівае ўсялякую ахвоту слухаць яе, дык у дадатак яна знаходзіцца зусім побач з першай. У выніку гэтага — узаемныя перашкоды: музыку, прынамсі, ужо немагчыма слухаць, і акрамя таго заглушаецца Прага. Нідзе ў свеце не практыкуецца такое, каб дзве свае, тэрытарыяльна блізкія радыёстанцыі знаходзіліся побач у дыяпазоне. Без перабольшання можна сказаць, што такое можа зрабіць толькі вар'ят ці зламыснік.

Але на гэтым не канчаюцца «прыгоды» доўгіх хваляў. З Менска перадае яшчэ адна радыёстанцыя, велізарнай магутнасці (1 мегават), якая трансліюе Маскву. Гэтакая ж радыёстанцыя з аналагічнай праграмай ёсць і ў Калінінградзе. Дык вось, на Браслаўшчыне, а таксама ў іншых мясцовасцях (а гэта даволі шырокая паласа на Беларусі), дзе сігналы ад іх прыблізна аднолькавай сілы сустракаюцца, узнікае эфект накладвання, які выяўляецца характэрным «бульканнем».

Абедзве радыёстанцыі ўваходзілі раней у пояс глушыльнікаў (Львоў, Менск, Калінінград), пабудаваных пасля вайны дзеля забеспячэння «жалезнай заслоны» ад берлінскага радыёперадатчыка «Голасу Амерыкі». У ролі ж радыёстанцый яны занадта магутныя (для Беларусі дастаткова магутнасці ў 5 разоў меншай, а для Калінінградскай вобласці — у 100 разоў). Ці, можа, зацікаўленыя колы спадзяюцца, што яны яшчэ спатрэбяцца дзеля выканання сваіх ранейшых функцый?

Спажыванне такой вялікай колькасці энергіі, асабліва сёння, ва ўмовах нястачы паліва, іначай як марнатраўствам не назавеш. Акрамя таго, электрамагнітнае выпраменьванне гэтакай інтэнсіўнасці стварае небяспеку для здароўя навакольнага насельніцтва. Гэтая радыёстанцыя працуе на Расію, для нас яна чужая, але яшчэ невядома, хто плоціць за яе эксплуатацыю.

Цікавы ў нас атрымліваецца «славянскі сабор»: дзве беларускія радыёстанцыі замінаюць адна адной, Прагі не чуем, Масква сама сабе перашкаджае, у дадатак злёгку, нібыта ненаўмысна, заглушаецца Варшава. Такім чынам, становіцца відавочным, што ў доўгіх хваляў на Браслаўшчыне «кароткія пяты». А як у іншых мясцінах Беларусі і ў блізкім замежжы?

**Юры САНЬКО.**

г. Менск.

## Будзем кукарэкаць?

*1993 год — год Чорнага Пеўня — будзе, па меркаванні астролагаў, апошнім з шэрагу крызісных. Певень знаходзіць і паказвае зерне, шмат абяцае, але мала робіць. Будуць небяспечнымі спрытныя і вопытныя дэмагогі, якія абяцаюць усеагульныя парадак, спакой і дабрабыт.*

*У 1993 годзе многія будуць лічыць, што лепшых перамен няма чаго чакаць. Але ўжо напрыканцы года зразумеюць, што наступны 1994 год прынясе рэзкае паляпшэнне эканамічнага становішча ў рэспубліцы. А пакуль што ў 1993 годзе нам, відаць, давядзецца крыху пакукарэкаць у чэргах; у чаканні перамен.*






Адраджэнне беларускай культуры, вяртанне роднай мовы ў жыццё не ўяўляецца магчымым без стварэння адпаведнай атмасферы. Гэтую выснову разумее і выхавацелька Валеўскай сярэдняй школы Навагрудскага раёна Валянціна Віктараўна Шчэрбач. Яна не шкадуе часу на вывучэнне народных традыцый, беларускага фальклору. Да гэтых скарбаў педагог імкнецца далучыць сваіх выхаванцаў. Найперш — цераз інсцэніроўкі старадаўніх народных гульняў.

А. К.

**На здымку: В. Шчэрбач развучвае з дзецьмі гульню «Знаёмства».**

**Фота Міхася ХАМЦА.**

# ГОНЯХ

— Вы, адчуваю, адукаваны чалавек, але ж чаму гаворыце па-беларуску?

— Бо беларус,— адказваю.

Былы вайсковец з выразам агіды на твары прагаварыў:

— Беларуская мова непрыгожая. Возьмем, напрыклад, слова «бруха».

Я, стараючыся не хвалявацца, кажу:

— Яно перайшло ў нашу мову з расійскай. Але ж можна сказаць і па-іншаму. Бацька, маці навучылі мяне такому: жывот. А яшчэ можна сказаць: пуза. А можна — чэрава.

Суразмоўца раптам расхваляваўся, ажно мне ў твар слінай пырснуў:

— Беларусы... Гэта апалячаныя рускія. У іх няма сваёй культуры. Вазьміце пісьменнікаў, якія гэтай мовай карыстаюцца. Пішуць нецікавыя кнігі. Вось хіба толькі «Людзі на балоце».

— А Васіль Быкаў, а Караткевіч?

— Усё роўна,— прамаўляе жорстка.

— Вас не цягне на радзіму? — вырашыў запытацца я.

— Як?

— Каб там жыць. Не чуць беларускай мовы, не бачыць некультурных людзей, якія хочуць быць беларусамі.

Мужчына перапыняе:

— Мяне не трэба выхоўваць. А па культуры я інтэрнацыяналіст.

### ЧАМУ?

Іду па гарадской вуліцы. Задаю сабе пытанні: «Чаму ў магазінах не могуць мне адказаць па-беларуску? Чаму на радзіме адчуваю сябе няўтульна? Чаму павінен прасіць, каб нейкую шыльду напісалі па-беларуску? Калі, нарэшце, пачнуць паважаць мой род, маіх прашчураў мае ж суайчыннікі?»

— Аляксей!.. — неспадзявана данеслася да мяне.

Спыняюся. Праз дарогу спяшаецца знаёмы настаўнік. Падыходзіць і замест прывітання кажа:

— Учора на педсавеце дырэктар назваў цябе нацыяналістам.

— Чаму?

— Хіба не здагадваешся? Ты ж на жніўеньскай нарадзе настаўнікаў казаў, што трэба адраджаць беларускую мову.

— Ты прамаўчаў? — пытаюся.

— Ды хацелася, ведаеш, мне яму сказаць...

Не клеіцца гаворка. Развітваемся. Мой знаёмы — з палёгкай. А я?

### ТЭЛЕФОННЫ ЗВАНОК

Пасля таго як мой артыкул аб праблемах роднай мовы на Слонімшчыне надрукавалі ў мясцовай раённай газеце, тэлефанаваў мне стары, заслужаны чалавек, якому прыйшлося хлябнуць ліха яшчэ тады, калі не раз сядзеў у белапольскіх турмах.

— Малайчына! — кажа.— Мы даўно чакалі гэткага артыкула. Калісьці за гэта змагаліся. Дзякую вам. Дзякую! Але ж...

— Што? — пытаюся.

— Вельмі добра, што вы так напісалі, але ж баюся, каб з вамі што не здарылася.

г. Слонім. **Аляксей ЯКІМОВІЧ.**



Напрыканцы 1992 года Рэспубліку Беларусь наведаў выконваючы абавязкі прэзідэнта Літоўскай Рэспублікі Альгірдас Бразаўскас.

НА ЗДЫМКУ: Альгірдас Бразаўскас і Вячаслаў Кебіч у час наведання аб'яднання «Белшына» ў Бабруйску.

Фота Аркадзя **НІКАЛАЕВА.** Белінфарм.

## Ужо заўтра — выкладаць па-беларуску

Усім, відаць, добра вядома, што Наваполацк, які раней у друку любілі называць «горадам вялікай хіміі»,— горад малады. Гэта сапраўды так, бо ў Наваполацку скрозь непадзельна пануе індустрыяльная забудова. Няма, на жаль, тых мілых, рамантычных і ціхіх, уласцівых старым гарадам, закуткаў, дзе, як кажуць, спявае душа. Але ж не варта забываць, што побач, рукой літаральна падаць, знаходзіцца старажытны Полацк — калыска нашай нацыянальнай дзяржаўнасці. Таму традыцыі Полацка з яго помнікамі сівой даўніны аказваюць прыкметны ўплыў на малады горад-сусед. Сваіх вышэйшых навучальных устаноў Полацк пакуль не мае. Хоць вядома, што яшчэ ў мінулым стагоддзі існавалі праекты адкрыцця ў горадзе розных ВНУ. Праўда, праекты тыя так і засталіся праектамі. Жаданне сённяшніх маладых жыхароў Полацка атрымаць вышэйшую адукацыю, нікуды з дому не едучы, часткова задавальняецца тым, што ў Наваполацку не першы ўжо год працуе політэхнічны інстытут.

З адчуваннем патрэб часу ў Наваполацкім політэхнічным упэўнена робяцца захады, каб ужо заўтра перавесці ўвесь навучальны працэс на родную мову. А сёння па-беларуску тут у аўдыторыях гучаць лекцыі па гісторыі Беларусі, філасофіі, іншых дысцыплінах гуманітарнага цыклу. Каб дасканала авалодаць мовай, каб не толькі далучыцца да яе, а і зрабіць у поўным сэнсе мовай рабочай, у інстытуце створаны чатыры групы па вывучэнні нашай дзяржаўнай мовы. У групах займаецца прафесарска-выкладчыцкі склад, адміністрацыйныя супрацоўнікі. Верыцца, што не за гарамі той час, калі ў аўдыторыях, кабінетах, лабараторыях Наваполацкага політэхнічнага роднае слова зойме сваё пачэснае месца.

**Сяргей БАБЫЛЬ.**
г. Полацк.

## Прапаную!..

*Шаноўнае спадарства! У нас бел-чырвона-белы сцяг ёсць? Ёсць! Герб Пагоня ёсць? Ёсць! Гімн Рэспублікі Беларусь ёсць? Няма! Няма і не будзе, пакуль у нашым краі не запануе наша роднае беларускае слова...*

*Таму прапаную: на наш складаны цяжкі пераходны перыяд за аснову гімна РБ разумна ўзяць верш Алеся Гаруна «Родная мова». Так, так... Гэта не вывіх, а стратэгія, калі хочаце... Варта толькі глыбей паразважаць над гэтым.*

**У. МАКАРЭВІЧ.**
*Смаргонскі раён.*

**Шаноўныя супрацоўнікі «Нашага слова»! Сябры Міжнароднага камітэта беларусістаў і супрацоўнікі Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны сардэчна віншуюць Вас з Новым годам і Калядамі, жадаюць у наступным годзе добрага здароўя, шчасця і плёну ў працы!**

**Адам МАЛЬДЗІС,**
прэзідэнт МАБ,
дырэктар цэнтра імя Ф. Скарыны.

*Уражанні*

Анатоль КІРВЕЛЬ

# ДВА АСІЛКІ

***(Спроба псіхалагічнага партрэта лідэраў)***

Была нават трохі сенсацыя: у госці да сяброў Беларускай суполкі ў Санкт-Пецярбургу ехалі з Менску «франтоўцы» Зянон Пазьняк і Юрась Хадыка. Калі госці крыху асвойталіся і павячэралі, пачалася размова.

Першым узяў слова Зянон Пазьняк. Ён сядзеў у старым прасторным пецярбургскім крэсле з падлакотнікамі і высокай прамой спінкай, але не патанаў у ім, а нават неяк узвышаўся — ці то прычынаю рост, ці гэта нам толькі здавалася — звычайная аберацыя зрокавага ўспрымання, калі раздражняльнік занадта моцны і на некалькі парадкаў перавышае парог нашых уяўленняў пра здольнасці і магчымасці чалавечай асобы.

Высокі, кашчавы, стрыманы, спадар Зянон не дазваляў сабе ўсмешкі — і праз колькі слоў высвятлялася, чаму ён так робіць: падзеі на Беларусі, якія для нас, піцерцаў, былі далёкім, прыгожым, летуценна-ваяўнічым сном ці марай, для Зянона былі рэальнасцю, жорсткай і бязлітаснай. І гэта рэальнасць нават цяпер вымушала яго заставацца гэтакім, якім даводзілася быць там, у пекле штодзённай палітычнай барацьбы за свае ідэалы. І ўжо нават пасля першых Зянонавых слоў складвалася ўражанне, што калі б ён дазволіў сабе ўсмешку, справа Беларускага Народнага Фронту імгненна разбурылася б.

Яго паплечнік — Юрась Хадыка — падаўся чалавекам іншага складу. Як толькі ён заўважыў, што Пазьняк, аддаўшыся ўспамінам, пачынае занадта горача ўспрымаць асабістыя словы і ледзь стрымлівае ў сабе эмоцыі, разлічаныя для слухача на мітынгу, — а гэта ж ва ўтульнай пецярбургскай кватэры ўспрымалася трошкі інакш,— Юрась Віктаравіч перапыняў яго з сяброўскай усмешкай і пачынаў расказваць амаль тое самае, але ў іншым — жартоўным — ключы. І на душы ўмомант рабілася святлей — знікалі залішняе напружанне, элемент зацятасці.

І падумалася: добра, што надзвычай безабаронны ў сваёй бязмежнай праўдзівасці Зянон Пазьняк — чалавек-свечка! — мае такога дарадцу і паплечніка, як Юрась Хадыка, без якога спадар Зянон мог бы ў нейкі момант не стрымацца і, барані Божа, наламаць дроў.

Пазіраць на Зянона Станіслававіча — вочы ў вочы — было трохі боязна: пякельны агонь вырываўся і пабліскваў язычкамі халоднага нязгодлівага полымя ў глыбокіх — цёмных, як ноч,— вачах і апякаў нават на адлегласці. І праз тое хацелася трохі адсунуцца — каб без перашкод, без чужога ўздзеяння вызначыць для сябе самога, што ж гэта за агонь: той, што нясе жыватворнае цяпло, альбо той, які спапяляе, нішчыць.

З Юрасём Хадыкам пачувалася значна лягчэй. Прыветлівы твар, на якім не чыталася анійкай зацятасці ці пакінутай на потым альбо толькі для сябе думкі, выклікаў на спагаду. Хадыка хацелася расказаць усё: і дзе ты сёння быў, і што купіў, і нават — карыстаючыся своеасаблівым Хадыкаўскім дазволам, нібыта падахвочваннем, што раз-пораз здавалася ўспыхвала ў яго зеленавата-блакітных вачах,— трошачкі пажартаваць.

Але ў самы адказны момант, калі ты ўжо гатовы быў расслабіцца, нечакана заўважалася, як пільна пазіраюць на цябе Хадыкавы вочы, ловячы кожную падрабязнасць тваёго расказу, і гэта пільная ўвага, з якой цябе слухалі, спыняла тваю газэлівасць так раптоўна, нібыта на цябе знянацку вылівалі цэбар халоднай вады: ты імгненна вяртаўся ў свет рэальнасці. Не, цябе не знішчалі без лішніх слоў, у рабочым, як кажуць, парадку ставілі на месца. І рабілася сорамна і няёмка, што ты сам — ніхто ж не прымушаў! — паказаў сябе хвальком і ледзь не манкам, знарок не гаворачы пра галоўнае, а спыняючыся на нейкіх дробязях, каб праз іх— правільней, праз Хадыкаву рэакцыю на гэта — даведацца, што ж ён за чалавек. Але, ловячы ў гэту непрыкметную, на твой погляд, пастку, ты сам трапляў у іншую, пастаўленую больш дасканала. А леацці ў новую — даказваць Хадыку, што ты не гэтакі,— было б наіўна і не па-мужчынску.

З Зянонам, думалася, усё ж прасцей. Яго, відаць, можна нават і абдурыць. Калі хопіць розуму. Праўда, ён, хай і потым, абавязкова раскусіць гэта і ўжо ніколі не даруе здрады — закрэсліць цябе назаўсёды.

Хадыка — не будзе закрэсліваць: не такі чалавек, каб крыўдзіць каго альбо, не давядзі Божа, вучыць розуму. Але ад Хадыкі не схаваецца любы фальш, любы падман: за простым абліччам хаваецца найдасканалейшы розум, які бездакорна адсякае зерне ад смецця і смецце ад зерня. Нездарма яго асноўная прафесія — дакладная навука. Доктар фізікі — гэта не абы што.

Тры гадзіны неспадзяванай размовы праляцелі як тры хвіліны. Вось зараз сядзім тут, успамінаем тыя сустрэчы, параўноўваем волатаў Фронту з афіцыйнымі кіраўнікамі Беларусі, што наведалі Пецярбург напярэдадні Новага года ў часе перамоў кіраўнікоў СНД. Меркаванне агульнае: ёсць на Беларусі светлыя розумы, не збяднела яна на дужых, мудрых і мужных людзей, а значыць ёсць і спадзяванне на лепшую будучыню ў яе народа.

г. Санкт-Пецярбург.

# Да 100-годдзя Канстанцыі Буйло



## Люблю наш край...

**2 студзеня споўнілася 100 год з дня нараджэння вядомай паэтэсы Канстанцыі Буйло**

Даведка з Віленскага архіва сведчыць: «17 студзеня 1893 г. у Віленскім касцёле св. Якава было ахрышчана дзіця па імені Канстанцыя, дачка сялян Антона і Анастасіі Буйлаў, якая нарадзілася 2 студзеня 1893 года ў г. Вільні».

Мала на зямлі беларусаў, якія не ведалі і не чулі, хоць бы аднойчы, песню «Люблю наш край». Спяваюць песню ў кожнай беларускай вёсцы. Музычныя фразы яе сталі пазыўнымі многіх радыёстанцый. Яна — гімн нашых землякоў на Беласточчыне і ў Злучаных Штатах Амерыкі, яе спяваюць беларусы ў Аргенціне і ў Парагваі, бо ў кожным яе радку прызнанне ў любові да любай, адзінай Бацькаўшчыны. Песню называюць народнай, найчасцей забываючы, што амаль 80 гадоў назад ёй дала жыццё непаўторная Канстанцыя Буйло, паэтэса загадкавая і ўсё яшчэ малавядомая, лёсу складанага і зайздроснага. Верш «Люблю» ў пачатку 20-ых гадоў паклаў на музыку выдатны беларускі кампазітар Мікола Равенскі, які пасля Другой сусветнай вайны жыў і памёр на чужыне.

У 1909 годзе ў газеце «Наша ніва» з'явіўся першы верш пачынаючай паэтэсы «Хвоя», а праз некалькі гадоў Янка Купала прапанаваў Канстанцыі Буйло выдаць паэтычны зборнік. Так у 1914 годзе з'явілася на свет славутая «Курганная кветка», якую ўкладаў і беражліва рэдагаваў Янка Купала.

Перыяд супрацоўніцтва з «Нашай нівай» быў самым плённым і шчаслівым у творчым жыцці паэтэсы. Яна сябравала з Янкам Купалам і Уладзіславай Францаўнай, жонкай паэта, добра ведала Змітрака Бядулю, Цётку, братоў Луцкевічаў, Ластоўскага... Па словах Максіма Багдановіча, яна абяцала развіцца ў яркі, самабытны талент. Але Першая сусветная вайна, Кастрычніцкая рэвалюцыя назаўсёды адарвалі Канстанцыю Антонаўну ад Беларусі, і гэта згубна адбілася на яе творчасці. З 1923 года да самай смерці ў 1986 годзе яна жыла ў Маскве, у доме па Ціхвінскім завулку. Зноў пісаць пачала ў Айчынную вайну, калі апынулася сярод беларускіх пісьменнікаў. Небяспека, што навісла над Радзімай, клікала да дзеяння, да змагання. Яе зброяй стала паэтычнае слова.

Амаль пасля 40-гадовага перапынку ў 1950 годзе выйшаў зборнік «Світанне». Самым значным было двухтомнае выданне твораў Канстанцыі Буйло ў 1981 годзе. Некалькі гадоў назад прах паэтэсы быў перавезены з Масквы ў Вішнева і перазахаваны на мясцовых могілках. У гэтым мястэчку на Валожыншчыне сям'я Буйло жыла доўгі час. Ёсць меркаванні, што менавіта тут паэтэсай быў напісаны верш «Люблю».

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

**Канстанцыя БУЙЛО**

## ЛЮБЛЮ

*Люблю наш край — старонку гэту,*
*Дзе я радзілася, расла,*
*Дзе першы раз пазнала шчасце,*
*Слязу нядолі праліла.*
*Люблю народ наш беларускі,*
*Хаціны ў зелені садоў,*
*Залочаныя збожжам нівы,*
*Шум нашых гаяў і лясоў,*
*І рэчку, што імклівa воды*
*Імчыць у нязведаную даль,*
*І жоўтасць берагоў пясчаных,*
*І яснасць чыстых яе хваль.*
*Люблю вясну, што ў кветкі, зелень*
*Аздобіць радасна зямлю,*
*Буслоў на гнёздах клекатанне*
*І спеў жаўроначка люблю,*
*Гарачую спякоту лета*
*І буру летнюю з дажджом,*
*Як гром грыміць, а ў чорных хмарах*
*Маланка зіхаціць агнём.*
*І восень сумную люблю я,*
*І першы звон сярпоў і кос,*
*Як выйдуць жнеі збожжа жаці,*
*А касары — на сенакос.*
*Люблю зіму з яе марозам,*
*Што вокны прыбярэ ва ўзор,*
*І белы снег, што, укрыўшы поле,*
*Ірдзіцца бляскам ясных зор.*
*Люблю ў пагодную я ночку*
*Да позна на дварэ сядзець,*
*Сачыць за зорачак мігценнем,*
*На месяц залаты глядзець.*
*І песню родную люблю я,*
*Што дзеўкі ў полі запяюць,*
*А тоны голасна над нівай*
*Пераліваюцца, плывуць.*
*Усё ў тым краі сэрцу міла,*
*Бо я люблю край родны мой,*
*Дзе з першым шчасцем я спазналась*
*І з гора першаю слязой.*

*1913*

*Старыя беларускія гімназіі*

***Даволі часта здараецца, што новае — гэта забытае старое. Добрае, падкрэслім, старое. І калі цяпер дарогу ў жыццё прабіваюць новыя формы навучання — гімназіі і ліцэі, то трэба ўлічваць, што гімназічная адукацыя мае на Беларусі свае глыбокія і трывалыя традыцыі. У XIX—пачатку XX стагоддзя розныя тыпы гімназій існавалі ва ўсіх значных (не толькі губернскіх) беларускіх гарадах. Пасля Першай сусветнай вайны ў Заходняй Беларусі працавала некалькі гімназій, дзе навучальны і выхаваўчы працэс паспяхова ажыццяўляўся на роднай беларускай мове. Гэтыя навучальныя ўстановы назапасілі значны станоўчы вопыт, які зараз, бясспрэчна, варты дэталёвага вывучэння і пераймання.***

***Сёння цікавасць да гімназічнай адукацыі прыкметна расце, а ўжо заўтра слова «гімназія» будзе ва ўсіх на слыху. Таму мы працягваем рубрыку «Старыя беларускія гімназіі».***

Рубрыку вядзе народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль.

# Мяняліся ўлады, але гімназія жыла

ПАЧАТАК лета — гадавіна нараджэння Віленскай беларускай гімназіі (ВБГ). Заснавана яна ў 1919 годзе, апошні свой юбілей адсвяткавала ў 1944 годзе...

За гэтыя 25 гадоў шмат разоў мянялася ўлада, ішлі войны, але гімназія жыла, бо цвёрда прытрымлівалася адной лініі — даваць веды, выхоўваць моладзь у духу сапраўднай любові да нашай Бацькаўшчыны. І зараз, калі магла б святкавацца ўжо 73-ня гадавіна гэтай навучальнай установы, мне хочацца ўспомніць пра тыя шчаслівыя часы, якія я правяла ў сценах ВБГ.

Прайшло шмат гадоў, нават дзесяцігоддзяў, як я пакінула Віленскую беларускую гімназію, якая дала мне так многа ў жыцці. Магу смела сказаць, што яна мяне вывучыла і, што галоўнае, выхавала. Усяму добраму ў сабе я ў першую чаргу абавязана ёй.

...Я паступіла ў гэтую навучальную ўстанову ў 1936 годзе. Тады ВБГ заставалася адзінай беларускай сярэдняй навучальнай установай на ўсю Польшчу. Вучыліся тут, у асноўным, дзеці сялян, часам настаўнікаў, святароў, іншых небагатых беларусаў. Найбольш вучняў было з Навагрудчыны.

Уступныя іспыты аказаліся адносна лёгкімі, бо паступаючых было мала: многія бацькі лічылі, што аддаваць дзяцей у польскія сярэднія школы больш перспектыўна.

І вось іспыты здадзены, і я — вучаніца першага класа. Якое гэта было шчасце! Усё цешыла нас, першакласнікаў: і залы, і класы, і тое, што станем жыць усе разам у інтэрнаце на Садовай вуліцы. Трэба мець на ўвазе, што нам было толькі па 12-13 гадоў. Хто скончыў да таго шэсць, хто сем класаў польскай пачатковай школы. Таму ўсё новае прыцягвала дзіцячую ўвагу. Сумна толькі, што далёка дома засталіся бацькі (мае ў невялікім мястэчку Казяны, што на Браслаўшчыне). Часта ездзіць дамоў мы не маглі, бо вельмі ж дарагімі былі тады білеты на чыгунку, ды і часу не заставалася для паездак. З 1 верасня да 22 снежня працягвалася першае паўгоддзе, а затым — зімовыя канікулы, якія трывалі да 15 студзеня (каб Каляды маглі адсвяткаваць і праваслаўныя і каталікі). Наступныя канікулы — Вялікдзень — прыблізна, красавік, а тады ўжо чакай да лета (канікулы з 15 чэрвеня да 31 жніўня).

Першыя ўражанні — сустрэчы ў інтэрнаце, дзе жылі ўсе іншагароднія вучаніцы (мужчынскі інтэрнат быў у іншым месцы). Тут нас адразу ж прынялі ў дружную сям'ю. Над кожнай першакласніцай устанавілі «шэфства» старэйшых дзяўчат. Гэтае «шэфства» мела для нас вельмі вялікае значэнне. Адарваныя ад бацькоў, мы ахвотна прымалі апеку старэйшых, якія ставіліся да новенькіх з сардэчнай дабрынёй і шчырасцю. Маёй старэйшай сяброўкай стала вучаніца выпускнога класа Ніна Ляўковіч з Палесся. Я палюбіла яе настолькі, што ў першыя ж канікулы, з дазволу бацькоў, запрасіла да сябе ў госці. Там, у вёсцы, Ніна хутка пазнаёмілася з моладдзю, сярод хлапцоў і дзяўчат вяла асветніцкую работу: арганізавала канцэрты і спектаклі на беларускай мове, чытала на вячорках беларускія кнігі.

Ніна пакінула аб сабе найлепшыя ўспаміны. Зараз яна жыве ў Парыжы.

...Гімназія знаходзілася тады на Вострабрамскай вуліцы, у доме № 9. Стаяла глыбока ў двары, побач са старой царквой Траецкага жаночага манастыра. Выкладчыкі гімназіі сустрэлі нас вельмі сардэчна. Гэта былі адукаваныя людзі, выдатныя прафесіяналы і выхавацелі.

Дырэктарам у той час працаваў вядомы беларускі дзеяч Радаслаў Астроўскі. Трэба сказаць, што трымаўся ён на адлегласці, і кароткіх знаёмстваў з малодшымі вучнямі, здаецца, не меў. А да дырэктара, як сёння, нікога не вадзілі, пытанняў дысцыпліны ўвогуле не існавала, бо ніхто і ніколі парадкаў не парушаў.

Пасля Р. Астроўскага дырэктарскую пасаду нядоўга займаў М. Анцукевіч, выкладчык лацінскай мовы.

Нямецкую мову на першым годзе навучання выкладала, аўстрыячка фраў Гофман. Гэта рабілася для таго, каб вучні на самым пачатку пазнаёміліся з правільным вымаўленнем. У наступным жа годзе і далей нямецкую мову выкладала ўжо беларуска Вольга Русак-Радзевіч, якая таксама ведала свой прадмет выдатна, бо праходзіла стажыроўку ў Нямеччыне. Шкада толькі, што характар яна мела занадта мяккі, не любіла ставіць дрэнных адзнак, і гэтым карысталіся некаторыя.

Мне вельмі падабаліся ўсе мовы: і лацінская, і нямецкая, і польская, і, вядомая рэч, родная — беларуская. Польскую мову выкладала першы год полька, пані Касінская. Яна — ужо немаладая — ведала шмат вершаў, паэм класікаў Адама Міцкевіча і Юліюша Славацкага. Прыемна было, калі яна пранікнёна чытала іх у класе па памяці. Потым выкладчыкам польскай мовы стаў пан Федаровіч. Мову ён ведаў выдатна, патрабаваў і ад нас моцных ведаў, асабліва па граматыцы. Праўда, ён не быў такім рамантыкам, як пані Касінская.

Беларускую мову ў першым класе вяла наша любімая настаўніца — пані Алена Кірылаўна Лекант. Цудоўны ва ўсіх адносінах чалавек, яна ставілася да нас, як родная маці. Часам у нас не хапала на нешта грошай, і пані Алена прапаноўвала нам узяць. Пасля вельмі злавала, калі прыносілі доўг, кажучы: «Што гэта ты робіш? Ты думаеш, у мяне менш грошай, чым у цябе?»

Хачу сказаць, што і пазней у мяне адбываліся сустрэчы з Аленай Кірылаўнай. Я бачылася, у прыватнасці, з ёю ў час нямецкай акупацыі, калі заняткі ў гімназіі працягваліся.

**Вольга МАРОЗ (ДАВІДОВІЧ).**

*(Працяг будзе).*

Вочна-завочная школа

# ПАЧАТКІ

ЗАНЯТКІ XV

Вядзе Валянціна Карлаўна РАМАНЦЭВІЧ

## ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

**1. Прачытайце выразна ўрывак з рамана Н. Гілевіча «Родныя дзеці», захоўваючы правілы вымаўлення галосных, зычных і іх спалучэнняў.**

Вось ты ў гасцях — і нават слоўца
Табе сказаць няма калі:
Вяндлінку з водарам ядлоўца
*Мяцеш* — зараз па два скрылі!

А побач—зірк! —як цуд, як казка —
З каляндрай, з перцам, з часнаком —
Ляжыць вясковая каўбаска,
Таксама ўвітая дымком!
К таму ж падсохла на гарышчы —
Дык толькі плеўка шапаціць!
Умэнт кальцо з паўметра *знішчыў* —
Адно раз'ятрыў апетыт!
Калі ж *дапаў* да вантрабянкі —
Цягаць стамілася рука!
Глядзіш — а ўжо кіндзюк крывянкі
На блюда выклалі з гаршка!
О, гэны зверху і сысподу
Наскрозь усмажаны каўтух!
За чатырох *змалоў — уходаў!*
(Хоць сам ты лічыш, што за двух.)
Паспеў адчуць, што ўжо не слабка
І ў паясніцы,— а на стол
Тым часам едзе ў місе бабка
І парай дыхае пад столь:
З бакоў запечаная ў меру,
У бульбе скварачкі тырчаць...—
І так жа ўслед *пайшла на змену* —
Хоць замычы — каб не маўчаць!
«Усё! — сказаў.— На гэтым дзякуй!»
А на абрус — нясуць бліны
І к ім — мачанку-верашчаку
З наборам рэбрачак свіных!
Хвіліну выстагнаў ты моўчкі:
«Дзе месца ўзяць? Патоўпіць дзе?»
І неўпрыкмет на два-тры вочкі
Паслабіў пас на жываце...

Ужо не здыхацца! Падпёрла —
Няйначай крушня камянёў!..
А перад носам... ставяць цёрла
Гарачых, тлустых калдуноў!

Калдун!.. Духмяны, самавіты,
У масле ўсмяглы, а паўзверх —
Смятанкай свежаю паліты!..
Ну што? Ізноў глядзіш, як звер?
І адчуваеш, адчуваеш:
Няхай хоць згэтуль у труну —
А не зганьбуеш, не стрываеш —
*Дасі прытул* і калдуну!
Дасі!.. І добра зробіш, браце!
І не ўпікай дарма сябе!
Ты за ядой — як і на працы:
На малацьбе ці на касьбе!
Калі на свеце нехта дзесьці
Умее добра працаваць,—
То ўмее ён і смачна *з'есці*
І — адпаведна — згатаваць!
Таму — дастойна, без эфекту
Прымай падзяку-пахвалу —
І беларускаму таленту,
І беларускаму сталу!
І цмокні ў ручку гаспадыні,
Каб сонцам пырснула яна,
І *ўскінь* яшчэ — а то астыне! —
*Ускінь на сэрца...* калдуна!..

**2. Прачытайце яшчэ раз выдзеленыя словы і словазлучэнні, захоўваючы правілы вымаўлення галосных, зычных і іх спалучэнняў. Якія з іх ужыты ў пераносным значэнні?**

## ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

1. Назавіце Вашы любімыя стравы.
2. Раскажыце, як іх прыгатаваць.
3. Складзіце паведамленне ці дыялог, выкарыстаўшы наступныя зычэнні:

* Калі ласка, госцейкі, сядайце. Просім.
* Дай Божа гаспадару і гаспадыні шчасця, долі і хлеба ўволю.
* Будзь вясёлы, як сват на вяселлі, здаровы, як вада, багаты, як зямля.
* Ешце госцейкі, бярыце і мачайце, а на лепшае — выбачайце.
* Каб доўгія гады жылі, здаровыя былі і на нас не забываліся.
* Калі баль, то баль,— налівай расолу!
* Няхай будзе так, як добрыя людзі кажуць!
* Каб жылося, былося, елася і яшчэ больш хацелася.
* На доўгі век, на добрае здароўе!
* Я зычу Вам таго, чаго сабе жадаю.

4. Растлумачце, у якіх выпадках выкарыстоўваюцца зычэнні: «Смачна есці», «Хлеб-соль», «Дзякуй», «Вялікі(-ая) расці».
5. Адкажыце на пытанні паводле тэксту А. Лакоткі і С. Барыса «Радзіны».

— Як называецца сямейнае свята з нагоды нараджэння дзіцяці?
— Каму на радзінах адводзілася самае ганаровае месца?
— Чаму бабкай магла стаць толькі вопытная жанчына?
— Якая абрадавая страва павінна была быць на радзінах?
— У гонар каго на радзінах спявалі песні?

## ДЛЯ ЦІКАЎНЫХ

**Прачытайце нарысы Адама Багдановіча «Калядныя звычаі і гульні» і «Каляднікі» (с. 6) і перакажыце іх.**

## Новая тэма: Утварэнне і правапіс некаторых граматычных форм прыметнікаў, лічэбнікаў і займеннікаў. Прыналежныя прыметнікі

Прыналежныя прыметнікі абазначаюць прыналежнасць прадмета (рэчы) пэўнай асобе або жывой істоце. Утвараюцца яны наступным чынам.

Ад назоўнікаў мужчынскага роду з цвёрдай асновай пры дапамозе суфікса — *-аў*, з мяккай асновай — суфікса — *еў*:

бацька — бацьк*аў*
Міша — Міш*аў*
Валодзя — Валодз*еў*
мядзведзь — мядзвядз*еў*

Гэта калі націск не падае на канчатак.

Калі ж націск на канцы слова, то (адпаведна аснове) — з дапамогаю суфіксаў *-оў, -ёў:*

Пятро — Пятр*оў*
ляснік — лесніко*ў*
Міхась — Міхас*ёў*
Кастусь — Кастус*ёў*

Ад назоўнікаў жаночага роду прыметнікі ўтвараюцца пры дапамозе суфіксаў *-ын, -ін* (таксама адпаведна аснове):

Вера — Вер*ын*
сястра — сястр*ын*
ластаўка — ластаўч*ын*
Таня — Тан*ін*

У беларускай мове паводле формы прыналежнага прыметніка можна вызначыць род асобы, якой належыць тая ці іншая рэч.

Алес*еў* (ад мужчынскага імя *Алесь*)
Алес*ін* (ад жаночага імя *Алеся*)
Шур*аў* (ад мужчынскага імя *Шура*)
Шур*ын* (ад жаночага імя *Шура*)

### СТУПЕНІ ПАРАЎНАННЯ ПРЫМЕТНІКАЎ

Простая форма вышэйшай ступені параўнання ўтвараецца пры дапамозе суфіксаў *-ейш-, -эйш-: смелы — смялейшы, храбры — храбрэйшы, дарагі — даражэйшы.*

Форма прыметнікаў вышэйшай ступені ўжываецца з залежным словам у вінавальным склоне з прыназоўнікам (прэдлогом) *за:* Гэты вечар *цяплейшы за ўчарашні.* Мой брат *маладзейшы за цябе.* Віця *старэйшы за* Веру.

**Заўвага.** Формы *старэйшы, маладзейшы* ужываюцца пры азначэнні ўзросту, а *старшы, малодшы* — пасады, звання: *старшы* лейтэнант, *малодшы* **лейтэнант, *старшы*** навуковы супрацоўнік, *малодшы* навуковы супрацоўнік.

Простая форма найвышэйшай ступені ўтвараецца ад вышэйшай пры дапамозе прыстаўкі *най-: прыгажэйшы — найпрыгажэйшы, лепшы — найлепшы.*

Складаныя формы ступеней параўнання ўтвараюцца пры дапамозе слоў *больш, менш (больш прыемны, менш знаёмы* — вышэйшая ступень) і *самы, найбольш, найменш (самы дужы, найбольш хітры, найменш чуйны* — найвышэйшая ступень).

### УЖЫВАННЕ ЛІЧЭБНІКАЎ З НАЗОЎНІКАМІ

Назоўнікі пры колькасных лічэбніках *два (дзве), абодва (абедзве), тры, чатыры,* а таксама прыметнікі і іншыя словы прыметнікавай формы, што ўваходзяць у словазлучэнні з гэтымі лічэбнікамі, маюць форму назоўнага склону множнага ліку: *два высокія дубы, тры першыя новыя дамы, чатыры прачытаныя вершы, дзве пятыя, тры чацвёртыя* (лічбы).

Пры абазначэнні адлегласці паміж прадметамі лічэбнік з назоўнікам у беларускай мове ўжываецца з прыназоўнікам *за: Спынімся за дзесяць кіламетраў ад горада* (параўн. *Остановимся в десяти километрах от города).*

### ПРАВАПІС ЗАЙМЕННІКАЎ

Займеннікі з часткамі *абы-* і *-небудзь* пішуцца праз злучок: *абы-хто, абы-чый, што-небудзь, каму-небудзь.*

Займеннікі з *-сьці* пішуцца разам (і з мяккім знакам): *хтосьці (хтось), штосьці (штось), чыйсьці.*

### ЗАМАЦАВАННЕ НОВАЙ ТЭМЫ

**1. Да наступных назоўнікаў падбярыце прыналежныя прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду, і запішыце словазлучэнні.**

**Узор:** Васева шапка, Ірына газета.

Усмешка, радасць, голас, лыжы, вуда, дом, бярлога.

**2. Перакладзіце сказы на беларускую мову.**

Земляника вкуснее клубники. Мёд слаще сахара. Бритва острее ножа. Железо легче золота. Летние дни длиннее зимних. Припять шире и длиннее Щары. Озеро Нарочь больше и глубже Свитязи. Эта книга интересней той.

**3. Ад наступных прыметнікаў пры дапамозе суфіксаў *-ейш-, -эйш-* прыстаўкі *най-,* слоў *больш* і *самы* ўтварыце прыметнікі вышэйшай і найвышэйшай ступені.**

**Узор.** Смелы — смялейшы, больш смелы, самы смелы, найсмялейшы.

Шчаслівы, чысты, прыгожы, вузкі, дужы, лёгкі, цвёрды.

**4. Да кожнага прыметніка падбярыце прыметнік з супрацьлеглым значэннем. Складзіце тры сказы з гэтымі прыметнікамі (на выбар) і запішыце іх.**

**Узор.** Шырэйшы — вузейшы.

Ніжэйшы, святлейшы, лягчэйшы, бялейшы, навейшы, халаднейшы, даўжэйшы, мякчэйшы.

**5. Словы, запісаныя ў дужках, пастаўце ў патрэбнай граматычнай форме.**

Дзве (свежая газета), два (скошаны луг), тры (куплены касцюм), чатыры (цікавая кніга), дзве (пахучая кветка), два (старэйшы сын), чатыры (цагляны мур), тры (пасаджаная бяроза).

## Развіццё гутарковай мовы

### НА ПОШЦЕ. ГАНДАЛЬ

* * *

Почтовое отделение — паштовае аддзяленне
посылка — пасылка
ящик для посылки — скрынка на пасылку
письмо — ліст, пісьмо
газета — газета
журнал — часопіс
еженедельник — штотыднёвік
открытка — паштоўка
конверт — канверт
марка — марка
телеграмма — тэлеграма
поздравительная телеграмма — віншавальная тэлеграма
телеграмма-молния — тэлеграма-маланка
перевод, послать — пераклад паслаць
индекс — індэкс
почтальон — паштальён
разносить почту — разно́сіць пошту
послать по почте — паслаць поштай
почтамт — паштамт

* * *

Торговля — гандаль
магазин — крама
книжный магазин — кнігарня
продажа — продаж
оптовая продажа — аптовы продаж
имеются в продаже — ёсць у про́дажы
поступила в продажу — прадаецца
проданный — прададзены
деньги — грошы
наличные деньги — наяўныя грошы
быть при деньгах — мець грошы
рубль — рубель
оплата — плата
оплатить — заплаціць
сдача — рэшта
дать сдачи — даць рэшты
ошибиться — памыліцца
ошибочно — памылкова
покупатель — пакупнік
покупательница — пакупніца
пересчитать деньги — пералічыць грошы
быть правым — мець рацыю
ты прав — ты маеш рацыю
кассир — касір, касірка
купить — купіць
покупать — купляць
купленный — куплены

Заданні.

1. Прачытайце словы і словазлучэнні, запомніце тыя, з якімі вы сустрэліся ўпершыню.
2. Прачытайце і запомніце загадкі. Загадайце іх сваім знаёмым.

* Закіну за мора — і там гаворыць. (Ліст.)
* Без душы, без цела за сто міль ляцеў. (Ліст.)
* Галубачка белая ў хату заляцела, а дзе і што сустракала, пра ўсё расказала. (Газета.)
* Стаяць кійкі, а на кійках доўгія шнуркі. (Тэлеграф.)

*Ад прадзедаў спакон вякоў*
*Нам засталася спадчына.*
**Я. КУПАЛА**

Адам БАГДАНОВІЧ

# Калядныя звычаі і гульні

Каляда пачынае і канчае гаспадарчы год. Па старому звычаю з гэтага дня (маецца на ўвазе Вялікая посная каляда або куцця — рэд.) наймаюць парабкоў на год. Так і дамаўляюцца: ад Каляд да Каляд. Аднак звычай патрабуе, каб парабка, які адбыў свой тэрмін, да другога дня Каляд не адпраўлялі. Пры разліку яго адорваюць «калядой»: кілбасамі і салам. Бяздомныя парабкі або гулякі ідуць у карчму, каб гульнуць на рэштکі атрыманага жалавання.

На Каляды, пасля вячэры, гаспадары «сеюць боб» па хаце і па двары, каб хлеб радзіўся як боб. А гаспадыні кормяць курэй куццёй у абручы, каб яны трымаліся свайго дома, не неслі яек дзе папала. На працягу двух тыдняў паміж першай і апошняй калядой, нават у будні дні, нельга выконваць сур'ёзныя гаспадарчыя работы, акрамя як дагледзець жывёлу — даць корму і напаіць — ды прыгатаваць абед. А вечарамі і зусім нічога нельга рабіць. Гэтыя вечары завуць святымі, а ў іншых месцах крывымі, мабыць, з прычыны таго павер'я, што калі ў гэтыя вечары працаваць, то прыплод хатняй жывёлы будзе нараджацца выраддлівым, ненармальным. Асабліва нельга шыць і прасці. Ад першага не толькі хатняя жывёла, але і дзеці могуць нарадзіцца сляпымі, а ад другога можа звіцца каўтун у валасах. У гэтыя вечары сяляне збіраюцца па хатах, якія больш прасторныя, і бавяць час у размовах, гульнях і забавах. Старыя апавядаюць падлеткам казкі, павучальныя бывальшчыны, загадваюць загадкі. Такі звычай. Таксама па звычаю грызуць у гэтыя вечары арэхі, гуляюць у цот і лішку. Дарослыя маладыя людзі, сабраўшыся асобна, спраўляюць «жаніцьбу Цярэшкі». Гэта спецыяльная калядная гульня. Іншыя гульні, як, напрыклад, «яшчур», гульня ў «Бога і чорта», хоць і ладзяцца ў калядныя вечары, але не абавязковыя. У гэтыя гульні гуляюць і ў іншы час і пры тым гуляюць больш дзеці і падлеткі, а ў «жаніцьбу Цярэшкі» гуляюць выключна на Каляды і прытым дарослыя хлопцы і дзяўчаты.

**КАЛЯДНІКІ**

На першы і другі дзень Каляд, а ў некаторых мясцінах таксама на Багатую каляду (куццю), ходзяць па хатах каляднікі. Гэта натоўп моладзі, што, падыходзячы пад вокны або ўвайшоўшы ў хату, славіць песнямі гаспадароў і за гэта атрымлівае каляду, г. зн., як мы ўжо тлумачылі, сала і кілбасы. Каляднікі нагадваюць велікодных валачобнікаў, і песні іх носяць часткова той жа земляробчы характар, што і валачобныя, толькі гэта асаблівасць у валачобных песнях больш ярка выяўлена. Аднак у некаторых калядных песнях ёсць і асаблівасці: гэта менавіта параўнанне гаспадара з месяцам, яго жонкі — з сонейкам, а дзяцей з зоркамі,— параўнанне, якое нам не даводзілася сустракаць у валачобных песнях. А самі каляднікі тым адрозніваюцца ад валачобнікаў, што нярэдка водзяць «казу», чаго валачобнікі не робяць. У такім выпадку, г. зн. калі ходзяць з «казой», то спяваюць толькі адну песню, прыстасаваную менавіта да гэтага звычаю.

«Казу» рыхтуюць так. Бяруць казіную галаву, насаджваюць яе на кій і прышываюць да кажуха, а калі няма сапраўднай галавы, то робяць яе з дрэва, афарбоўваюць у белы колер, выводзяць вочы, прыладжваюць рогі і г. д. Кажух, выварачаны поўсцю наверх, апранае які-колечы спрытны хлопец — і «каза» гатова. Натоўп каляднікаў, увёўшы «казу» ў хату, зацягвае песню:

Бог-помач таму,
Хто ў гэтым даму!
Мы ў госці ідзём
І казу вядзём.
Го-го! Каза,
Го-го! Шэра!
Дзе каза ходзіць,
Там жыта родзіць,
Дзе каза нагой,
Там жыта капой,
Дзе каза рогам,
Там жыта стогам.
А наша каза
Была ў бару,
Грызла там кару
З казяняткамі;
Спаткала воўка
З ваўчаняткамі;
Як хваціць ваўчок
Казу за бачок,
А ваўчаняткі —
За казяняткі.
Ледзь-неледзь каза
Ад ваўка ўцякла,
У сяло прыйшла.
А ты, козынька,
Топні ножанькай,
Не бойся ваўка,—
Ён не з'есць цябе;
А бойся, каза,
Старога дзеда:
Ён цябе згубіць
Скуру аблупіць.
Ужо бярэ ён меч,
Каб козыньку сеч.
Пацекла юшка
З правага вушка;
Козынька пала —
Здохла, прапала.
— Гаспадарочык,
Слічны паночак!
Гаспадынічка,
Як маліначка!
Ты вазьмі ключы
Залаценькія;
Запалі свечку,
Пайдзі ў клетку:
Прынясі казе
Рэшата аўса;
Рэшата аўса,
На верх кілбаса
І кусок сала,
Каб каза ўстала.

У час спеву «каза» нязграбна паварочваецца ў розныя бакі, у адпаведных месцах песні прытупвае нагамі, пастуквае рагамі, кланяецца, падае і ляжыць, быццам мёртвая, і ў канцы імгненна ажывае, ускоквае на ногі. У гэтым і ўся штука. Што да песень, пад якія скача каза, то ўсе яны па складу зусім аднолькавыя, спяваюцца адным напевам, але розняцца па змесце.

Мы прывялі тут найбольш тыповую з іх і прывялі таму, што ў ёй заўважаецца намёк на старажытнае ахвярапрынашэнне: менавіта напамінак пра старога дзеда, які збіраецца загубіць казу. Гэты дзед крыху нагадвае язычніцкага жраца. У такім выпадку ў казе можна было б бачыць ахвярную жывёліну, і тады ўвесь абрад набыў бы сэнс. Аднак з прычыны беднасці зместу гэтых песень цяжка зрабіць бясспрэчную выснову, тым больш, што ёсць варыянты, якія паказваюць на тое, што дзед хоча злупіць скуру з казы для таго, каб зрабіць дуду.



# Беластоцкі «Часопіс»

Выйшаў 12 нумар беластоцкага «Часопіса». На гэты раз ён багаты на беларускамоўныя матэрыялы.

«Жывём у цікавы час», — так называецца размова В. Харужага з Яўгенам Мірановічам, гісторыкам, публіцыстам, галоўным рэдактарам беластоцкай «Нівы». На пытанні: «Якую можаце даць ацэнку пераменам у апошніх гадах? Як думаеце, што змянілася ў нашым грамадстве за гэты перыяд?» спадар Мірановіч адказаў: «Думаю, што змянілася вельмі многае, бо калі ў 1980 годзе Сакрат Яновіч напісаў артыкул «Нашы беларусы» ў «Газеце вспулчэснай», паўстаў вялікі крык, а можа і паніка ў польскім асяродзі. Адны гаварылі, што гэта была палітычная правакацыя, іншыя — што здрада, трэція крычалі, што беларусы ўсё ўжо маюць, а чаго ж яны яшчэ хочуць?! А Сакрат Яновіч сказаў толькі тое, што ёсць беларусы на Беласточчыне. А які скандал падняўся! Калі глядзім на гэта з перспектывы больш дзесяці гадоў, усё выглядае аптымістычна. Калі хтосьці цяпер піша, што ёсць тут беларусы, усе прымаюць гэта як натуральную з'яву, як той факт, што ёсць дрэвы ў лесе ці ў рацэ вада. Гэта ўжо не сенсацыя. Ад 1985 года ў цэнтральным друку праблема нацыянальных меншасцяў закранаецца даволі часта, але на Беласточчыне было ўсё гэта тэмай табу. І ў 1989 годзе, калі мы загаварылі аб сваёй тут прысутнасці, зноў падняўся скандал...»

«Большасць беларусаў, якія жывуць на бацькаўшчыне, гэта вернікі праваслаўнай царквы. Беларускі экзархат Рускай праваслаўнай царквы налічвае зараз 9 епархіяў. Беларусы, якія жывуць у межах Польшчы, з'яўляюцца вернікамі Польскай праваслаўнай царквы. Шмат беларусаў на бацькаўшчыне — вернікі рыма-каталіцкай царквы. На эміграцыі дзейнічаюць тры Беларускія цэрквы, розных юрысдыкцый і статусаў» — так пачынаецца артыкул Антона Мірановіча «Беларуская царква на эміграцыі».

Пра Альжбету Шыманюк, жонку Скамароха, якая пасля бальшавіцкага перавароту 1917 г. прыехала ў Польшчу з мужам для вядзення барацьбы за савецкую ўладу, піша Васіль Петручук. Як жа змагалася Альжбета? А вось як: «Ліза прыехала з мужам ваяваць за савецкую ўладу, але калі пабачыла, што тут лепш, то і адраклася ад ідэі, з якой ехала ў Польшчу. Яшчэ горш зрабіла, чым адраклася, бо перайшла на бок палітычнага праціўніка і з ім супрацоўнічала супраць сваіх колішніх меркаванняў, нават — мужа. Адышла, пакінула мужа і выйшла замуж за паліцэйскага».

Унікальнасць, што закладзена ў кожнай нацыі, прадугледжвае і пэўныя паралелі. Дзякуючы ім, можна параўноўваць розныя народы, вызначаць іх непадабенства. Пра жыхароў Нарвегіі ў сваім артыкуле «Паўночны шлях» разважае Алег Дзярновіч.

«Часопіс» знаёміць сваіх чытачоў з календаром царкоўных свят. Часопіс багата ілюстраваны здымкамі гістарычных мясцін Беласточчыны.

**В. А.**

# Тэрміналогія — патрэба часу

Пагартаў я кніжачку «Словарь менеджера» (Мн., «Вышэйшая школа», 1992). Выйшаў слоўнік на рускай мове, але тэрміны падаюцца па-руску і паралельна — па-беларуску (праз касяк). Здавалася б, трэба толькі вітаць, каб не хібы. Вось на с. 77 чытаем: Общество с ограниченной ответственностью./ **Грамадства з абмежаванай адказнасцю... (замест таварыства!). І гэта не проста недагляд. Мяркую, у кніжцы яшчэ шмат чаго неадпаведнага. Пішу вось дзеля чаго. Узнікла пільная патрэба ў пераглядзе і ўдакладненні грамадска-палітычнай лексікі, літаральна** рэвізіі старых слоўнікаў — руска-беларускіх і г. д.

Чуў, што ў выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя» створана адпаведная камісія. Але цяжка сказаць, як плённа яна працуе, бо інфармацыі для грамадскасці, на жаль, пра тое няма.

У гэтай сітуацыі, на маю думку, шмат карыснага можа зрабіць «Наша слова». Варта на яе старонках павесці шырокую гаворку, публічнае абмеркаванне ўсяго таго, што ўваходзіць у лексікон эканамістаў, прадпрымальнікаў, фінансістаў і г. д.

**Аляксей ПЯКАРСКІ.**

## *КАРОТКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ*

***Як мы ўжо паведамлялі, у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя» падрыхтавана аднатомная навукова-папулярная энцыклапедыя «Беларуская мова». У выданні падаюцца звесткі пра гісторыю нашай мовы, яе структуру, граматычны лад і сучасны стан, пра рукапісныя і друкаваныя помнікі, пра айчынных і замежных даследчыкаў нашай мовы. Кніга мае быць надрукавана ў чацвёртым квартале сёлетняга або ў першым квартале 1994 года.***

***Мы перакажам чытачам некаторыя звесткі з грунтоўных артыкулаў энцыклапедыі.***

**Рудольф АБІХТ** (9.VIII.1850—12.II.1921). Нашую мову гэты славуты нямецкі філолаг-славіст пачаў вывучаць на 66-ае лета свайго жыцця (у 1916 годзе). Неўзабаве аваладаў ёю і пачаў чытаць у Брэслаўскім (цяпер Вроцлаў) універсітэце курс беларускай мовы. У 1917—1918 гадах Абіхт выкладаў яе і ў Свіслацкай настаўніцкай семінарыі, разам з Янкам Станкевічам напісаў невялікі лемантар-дапаможнік «Просты спосаб стацца ў кароткім часе граматным» (лацінкай) і выдаў яго ў 1918 годзе ў Брэслаўе. Прафесар Абіхт меркаваў, што лацінскі алфавіт паспрыяе хутчэйшаму далучэнню беларускай культуры да еўрапейскай. Ён цаніў беларускія казкі, песні, літаратурныя творы («Тарас на Парнасе») і пазнаёміў з імі нямецкага чытача — спрыяў выданню ў 1919 годзе ў Берліне зборніка «Беларусь» (пра геаграфічныя ўмовы, гісторыю і культуру нашай краіны).

*Паводле*
*У. Л. Сакалоўскага.*

**Антаніна АБРЭМБСКАЯ-ЯБЛОНСКАЯ** (12.1.1901), адзін з арганізатараў і шматгадовы кіраўнік (1956—1972) кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Пані прафесар падрыхтавала навукоўцаў, якія працягваюць педагагічна-выхаваўчую работу і даследаванні ў розных галінах беларускага мовазнаўства, у тым ліку і вывучэнне гаворак Беласточчыны. Пад кіраўніцтвам А. Абрэмбскай-Яблонскай былі апрацаваны і выдадзены з тлумачэннямі і слоўнікам пяты, шосты і сёмы тамы рукапісных фальклорных матэрыялаў М. Федароўскага «Люд беларускі» (1958—1969).

*Паводле*
*В. Л. Вярэніча.*

**Рубен АВАНЕСАЎ** (1.II.1902—1.V 1982). Амаль 35 гадоў супрацоўнічаў вядомы дыялектолаг, стваральнік савецкай лінгвагеаграфічнай школы з беларускімі мовазнаўцамі. Спрычыніўся член-карэспандэнт АН СССР (з 1958) Аванесаў і да падрыхтоўкі ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа «Хрэстаматыі па гісторыі беларускай мовы» (ч. 1—2, 1961, 1962), «Хрэстаматыі па беларускай дыялекталогіі» (1962), «Нарысаў па беларускай дыялекталогіі» (1964). Ён жа быў і завадатарам стварэння АЛА.

*Паводле*
*М. В. Бірылы.*

**Агульнаславянскі лінгвістычны атлас** (АЛА). Ідэю стварэння яго прапанавалі Р. І. Аванесаў сумесна з С. Б. Бернштайнам на шостым Міжнародным з'езде славістаў (1958). За кароткі час у 850 славянскіх паселішчах быў сабраны вялікі матэрыял. На Беларусі даследаваліся гаворкі 74 вёсак (на картах атласа яны пазначаны нумарамі 327—400). У 1980 г. выйшаў уводны том АЛА, а ў 1988 — першыя выпускі двух серый: «Лексіка-словаўтваральнай» і «Фанетычнай».

*Паводле*
*М. В. Бірылы.*

**Адасобленыя члены сказа** — гэта залежныя словаформы і словазлучэнні, якія інтанацыйна і паводле сэнсу вылучаюцца (адасабляюцца) для таго, каб надаць ім большае значэнне ў сказе: *Шляхам, хаця і нялёгкім, мы цвёрда да шчасця ідзём* (А. Звонак); *Быў у замку дзед Даніла, родам дзесь з-пад Мазыра* (Якуб Колас); *А там, за ціхай рэчкаю, шуміць арэшнік малады* (Янка Купала).

*Паводле*
*Л. І. Бурака.*




*Рубрыку вядзе*

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Паэзіі Крысціяна Фрыдрыха Гёльдэрліна (1770—1843) былі ўласцівыя, паводле трапнага выказвання аднаго з вядомых літаратуразнаўцаў, «гётэўская ўніверсальнасць...; апафеоз найвышэйшых ідэалаў чалавецтва, які набліжае яго да Шылера; музыка, роднасная Бахавай поліфаніі, блізкай да харала нямецкай народнай песні; бетховенскія гераічныя памкненні да дзеяння...»

Фрыдрых ГЕЛЬДЭРЛІН

## Вечаровая фантазія

Спакойна перад хацінай сваёю ў цяні
Сядзіць араты; лагодна агмень дыміць.
Звон вечаровы гасцінна вандроўніку
Звоніць у вёсцы мірнай.

Баркасы вяртаюцца ў гавань сваю,
У гарадах далёкіх рух кірмашоў
Сціх, заклапочаны, жвавы; у ціхай альтанцы
Добрых сяброў на стале чакае вячэра.

Куды ж я імкнуся? Смяротныя ўсе
Працай, заробкам жывуць, і добра адпачываць
Пасля штодзённых высілкаў. Чаму ж засела
Стрэмка адно ў маім сэрцы?

У вечаровым небе буяе вясна;
Безліч ружаў цвіце, і свет залаты
Нібы спакойны зусім. О, мяне вазьміце
З сабой, аблакі пурпуровыя!

Няхай у ветры й святле пакуты, любоў
Мае развеюцца. Ды ўжо ўцякае дзіва прэч,
Нібы спалохаўшыся маіх вар'яцкіх просьбаў.
Наўкол сцямнела; пад небам я зноў самотны —

Прыйдзі нарэшце, салодкі сум! Зашмат
Жадае сэрца; ды ўрэшце ты, летуценнае
Юнацтва, у нас адгарыш-адпалаеш —
Мірнаю, светлаю будзе старасць.

## Сярэдзіна жыцця

**Хіліцца ў ружах дзікіх,
З жоўтымі грушамі разам,
Нізка зямля ў ваду.
Вы, лебедзі-птушкі,
П'яныя ад пацалункаў,
Зграбна ў яе, святую,
Схіляеце галовы.**

**Ах, дзе я зімовай парой
Кветкі знайду? О, дзе
Сонечнае святло,
Зямлі нашай цені?
Муры наўкол стаяць
Халодна-маўкліва — ў ветры
Скрыгоча флюгер.**

## Зямная слава

**Ці ж не святое сэрца маё, поўнае жыцця,
Ад часу, калі я люблю? Чаму ж мяне
Вы не шануеце больш, хоць быў я
Дзічэйшы, пусцейшы, балбатлівейшы?**

**Ах! Натоўпу вядома, што цэніцца на кірмашы,
І раб паважае толькі тырана,
У боскае верыць толькі
Тыя, хто самі такія.**

***Пераклад з нямецкай Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.***

*Дэтэктыў. Прыгоды*

***Чытацкае кола «Нашага слова» пашырылася на дзве тысячы. Асноўныя падпісчыкі засталіся вернымі газеце.***

***У нумары 32 за мінулы год «Наша слова» пачало друкаваць раман Гораса Маккоя «Бывай, жыццё, бывай, каханне!». Меркавалася публікацыю твора закончыць да Новага года, але, як бачыце, не разлічылі, пашкадавалі скарачаць і пайшлі насустрач чытачам, якія хочуць падрабязна ведаць пра далейшы лёс герояў рамана. Для тых, хто ўпершыню трымае ў руках «Наша слова», гаворым, што раман «Бывай, жыццё, бывай, каханне!» — дынамічны, інтрыгуючы дэтэктыў, у якім паступова высвятляецца хто ёсць хто. Цярпліваму чытачу давялося зазірнуць у пекла, якое людзі стварылі самі сабе, забыўшыся на Бога і на сваю чалавечую існасць. Цалкам твор успрымаецца як раман-папярэджанне. Ён вытрыманы ў рэчышчы мастацкай літаратуры і без націскаў на адносіцца — гэтым і адрозніваецца ад патоку перакладной бульваршчыны.***

***Заканчваючы публікацыю вялікага па памерах рамана, хочам атрымаць ад чытачоў водгукі і просім парады, якія творы друкаваць у далейшым на старонцы 7, якую традыцыйна і далей мяркуем аддаваць пад перакладную літаратуру.***

Горас МАККОЙ

# БЫВАЙ, ЖЫЦЦЁ, БЫВАЙ, КАХАННЕ!

*(Працяг. Пачатак у №№ 32—52, 1992).*

— Калі я ўбачыў, што вы значыце для Маргарэт, то падумаў, што лепш патрымаць гэтую заяву ў сябе. Так што, бачыце, вы ўсё яшчэ жанатыя. І я не прашу вас прымаць рашэнне імгненна. Падумайце спакойна і адкажыце мне заўтра.

Я выйшаў, зусім аглушаны начутым. У холе да мяне падышлі тры чалавекі — мажардом і двое тыпаў у блакітнай уніформе. Неўзабаве я пазнаў іх. Гэта былі Уэбэр і Рыс.

Я адышоў убок, каб дазволіць ім прайсці ў бібліятэку. Твар Уэбэра застаўся знешне спакойным, толькі вачыма галоўны інспектар трохі выдаў сябе, а вось Рыс быў відавочна здзіўлены. Што датычыць мяне, то адзінае, што мяне ўразіла, дык гэта іхняя уніформа: я ўпершыню ўбачыў іх у форме.

— Пан Ёна хацеў бы вас бачыць, пан,— сказаў мне мажардом.— Я прасіў бы вас пачакаць хвілінку...

Ён пастукаўся ў дзверы бібліятэкі, адчыніў іх і звярнуўся да Эзры Добсана:

— Вы сказалі прывесці да вас паліцэйскіх адразу ж, як толькі яны прыбудуць...

— Няхай заходзяць...

Уэбэр і Рыс пазіралі на мяне. нарэшце яны прайшлі ў бібліятэку, і я пачуў, як Добсан сказаў: «Прывітанне, Чарлі!»

— Ідзіце за мною, пан,— звярнуўся да мяне, зачыніўшы дзверы за паліцэйскімі, мажардом.

Усё гэта здавалася мне нейкім сном — і словы мажардома, і голас Добсана, і з'яўленне тут Уэбэра з Рысам... Я быў ашаломлены і аглушаны... Я ўсё чуў, бачыў, разумеў, аднак рабіў усё машынальна, бы ў здранцвенні... Нібыта нейкі робат, я дайшоў услед за мажардомам да дзвярэй, якія ён адчыніў...

— Гэта вы, Поль? — пачуў я голас Ёны.— Эй, Поль!

— Я,— слаба прамовіў я.

— Праходзьце...

Азірнуўшыся, я зразумеў, што трапіў у ягоны жыллёвы пакой. Усюды кнігі, фатаграфіі, дзесяткі залатых і сярэбраных кубкаў, процьма розных іншых рэчаў ды забавак. Я падышоў да адчыненага вакна і з асалодаю ўдыхнуў начное паветра. Патроху я пачынаў адчуваць, што ачомаўся.

— Гэй, хадзіце сюды! — крыкнуў ён мне ўжо са спальні. Ён стаяў ля яе дзвярэй у адных кальсонах і шкарпэтках.

— А ў вас вельмі прыгожа. Цікавыя рэчы,— сказаў я.

— А, нічога асаблівага!..

«Божа,— думаў я,— што з імі зрабілася, што яны так хочуць, каб я ўзяў іхнюю дачку?»

— Ды ідзіце вы сюды! — крыкнуў ён зноў.— Ну вось, нарэшце. Сядайце. Вы здзіўлены? — Ён паглядзеў на мяне з усмешкаю.— Мільён долараў наяўнымі.

Зноў тое ж самае.

— Дык я правільна зразумеў? — спытаўся я.

— Абсалютна.

— Вы ў курсе?

— Ці ў курсе я? Гэта ж я яму і падказаў...

— Вы?

— Мілдрыд прапанавала паўмільёна, а я — мільён.

— Мілдрыд?

— Маргарэт. Мідж — ласкава. На самай справе сястру зваць Мілдрыд. Ёй раптам захацелася змяніць імя. Адна з першых фаз яе містычнага жыцця.

— Я гэтага не ведаў.

— Мы — сям'я трохі дзіўная,— сказаў ён, сядаючы на ложак.

— Але мільён — гэта ўжо занадта дзіўна,— сказаў я.

— Чаму? Ну што яму мільён? У яго іх сто. А дачку сваю ён любіць больш за ўсё на свеце. І я, дарэчы, таксама. Хоць мы і гаворым часам адно аднаму малапрыемныя рэчы. Ёй неабходна тэрміновая дапамога. Можа, вы і ёсць той самы чалавек, які вывядзе яе з усяго гэтага зацьмення. Я спадзяюся.

— Уся гэтая гісторыя выдае на нейкі гратэск. Поўны ідыятызм.

— Не бачу нічога ідыёцкага. Падарунак у мільён долараў. Ну і што?

— У мяне галава кружыцца...

— Ёсць рэчы важнейшыя за грошы. Вы прынесіце Маргарэт псіхічную раўнавагу. Гэтага не мог зрабіць ніводны мужчына.

Я паглядзеў на яго...

— Разумееце вы нарэшце ці не, што вы той чалавек, які нам патрэбны?

Нарэшце я зразумеў.

— Можна што-небудзь выпіць? — спытаўся я, узняўшыся.

— Па-мойму, вам гэта неабходна,— усміхнуўся ён.— Хадземце ў мой кабінет.

Я прайшоў услед за ім у ванную — амаль такую ж вялікую, як і ягоны жыллёвы пакой. Ультрафіялетавыя і інфрачырвоныя лямпы над масажным сталом. У алькове, за зашклёным душам — бар. Ёна выбраў бутэльку джыну, наліў у шклянку, укінуў туды трохі лёду з лядоўні і працягнуў напой мне. Я праглынуў усё нагбом...

— Ведаеце, што мяне дзівіць? — сказаў я.— Ніхто нават не спытаўся ў мяне, што я думаю пра Маргарэт. Ці гэта не мае ніякага значэння?

— Вы так думаеце?

— Бачу... Дык гэта няважна?

— Яшчэ шклянку?

— Не, дзякуй.

— Тады я пайду адзенуся.

Ён прайшоў у суседні пакой, я — услед за ім. Тут ён трымаў свой гардэроб. Ніколі ў жыцці не бачыў нічога падобнага!

— Любіце прыгожую адзежу? — спытаўся ён.

— Люблю. Толькі ніколі не мог сабе дазволіць нічога такога файнага.

— Зараз зможаце, як маеце мільён долараў...

«Мільён долараў?..— думаў я.— Згадзіцца? Але ці выйду тады я з гэтай пасткі? Вось перада мною — працягні толькі руку — усё, што я хацеў гадамі. Ніколі яшчэ, бадай, ніводны шчаслівец не атрымліваў такіх падарункаў лёсу. Фантастыка! Свет будзе ў мяне пад нагамі, але даецца мне ўсё гэта зусім не за так... Творца быццам засцерагае мяне: не спакусіся — гэтая дарога вядзе да твайго разбурэння. Але хіба ўсе гэтыя ўспаміны не могуць адступіць перад халоднай развагаю?..»

— Хадзем,— сказаў ён.— Паглядзім, ці гатовая Мідж. Пойдзем утраіх...

— Куды?

— У мой клуб. Мідж сказала, што пойдзе туды з задавальненнем. Ва ўсякім разе, ёй гэта будзе на карысць. А вы адразу ж пазнаёміцеся з маёй кампаніяй... Мідж сказала мне, што вы вольныя сёння...

— Я і праўда вольны,— сказаў я.— Вольны, як паветра...

VIII

Клуб знаходзіўся ўсяго толькі за некалькі сотняў метраў ад дома Добсанаў. Гэта быў вялікі будынак у каланіяльным стылі. Вокны ў ім былі залітыя агнямі...

— Добры вечар, панна Добсан, добры вечар, пан Добсан,— сустрэў нас чалавек у белай лібрэі з чырвонымі пазументамі.— Панна Уэст чакае вас у грыль-бары.

— Дзякуй, Уільям,— адказаў Ёна.— Здаецца, сёння тут поўна народу...

— Поўна, пан Добсан. І ніколі яшчэ я не бачыў нашых гасцей такімі вясёлымі... Вельмі прыемна зноў бачыць вас, панна Добсан...

— Дзякуй, Уільям,— трохі напружана адказала яна.

Я ўзяў яе пад руку, і мы пайшлі ўслед за Ёнаю ў грыль-бар, адкуль даносіліся музыка і галасы... Як толькі мы ступілі на апошнія прыступкі, як нас здалёк убачыла і імкліва пайшла да нас, зрабіўшы знак пачакаць, высокая, даўганогая даяўчына з прыгожымі светлымі да плячэй валасамі. Было відаць, што яна чакала нас і выглядвала ля ўваходу. У руцэ ў яе была шклянка з напоем.

*(Працяг будзе).*

*Гэта ж трэба...*



## Ёсць і ў нас свой Буш... Знойдзецца і Клінтан?

Не чакалі амерыканцы Вольга і Тэо Райс сустрэць у Брэсце... Джорджа Буша. Зразумела, гасцей горада над Бугам вітаў не сам прэзідэнт ЗША, але чалавек, на думку многіх, вельмі да яго падобны — мясцовы жыхар пенсіянер Аляксандр Ягоравіч Барабоця. На яго падабенства да былога прэзідэнта звярнулі ўвагу і амерыканскія госці, якія прыехалі на радзіму Вольгі з мэтай стварыць тут англійскі культурны цэнтр.

Фота Эдуарда КАБЯКА.
Белінфарм.

*Парнаскія штрыхі да вядомых партрэтаў*

Вінцук ША

### *Станіславу ШУШКЕВІЧУ*

Старшыня Вярхоўнага Савета
Быў без адпачынку й гэта лета.
Дачу сам сабе будуе
І дзяржаваю кіруе.

◆

### *Нілу ГІЛЕВІЧУ*

Ён дэпутат народны і паэт народны,
Які стаіць аддана за народ гаротны.
Між дэпутатаў ён даўно пашану мае
І слухаюць яго, калі ён выступае.
За мовы адраджэнне ён змагаецца
І ТБМ на ім трымаецца.

◆

### *Зянону ПАЗЬНЯКУ*

У парламенце Зянон Пазьняк
Не выступае абы-як.
І так ужо адно здараецца,
Што ён ні скажа — ўсё збываецца.

◆

### *Лявону БАРШЧЭЎСКАМУ*

У Баршчэўскага Лявона
Перакладчыка карона.
Ды ён славы не шукае,
Гожа лекцыі чытае
І ў яго . у справах лад.
Ён народны дэпутат.

### *Яўгену ЦУМАРАВУ*

Дэпутат Яўген Цумараў
Вельмі многа мае мараў.
І ў парламенце не дрэме
І заўсёды ў ТБМе
За траіх стараецца,
І яго святая мара
Усё ж такі збываецца:
Мова адраджаецца.

◆

### *Адаму МАЛЬДЗІСУ*

Беларусы свету ведаюць яго даўно,
Вечнага шукальніка спадчыны забранай.
Ён Скарынінскаму цэнтру ў свет акно
Адчыніў і зямлі сваёй аддана
Служыць так, нібыта рыцар служыць пані
У бялюткім замку «Вечнага Кахання».

◆

### *Міколу ЕРМАЛОВІЧУ*

А ён працуе на вякі.
І ён не мог жа прыніжацца,
Каб хоць далі надрукавацца
Вучоныя бальшавікі.
І Беларусі старажытнай
Ён чуе голас з курганоў.
І ён з народам родным злітны,
Як злітны Вера і Любоў.

*Гісторыя ў анекдотах*

# Аб прывітанні чырвонымі яйкамі

***Кажуць, самая вялікая колькасць анекдотаў пра ўласную гісторыю маюць французы. То, можа, і жывуць па-людску? На такі роздум нас міжволі навёў паэт Уладзімір Някляеў, які на гэты раз выступіў у трохі нязвычнай для ягоных чытачоў ролі аўтара прадмовы. Прычым, кніжкі, якіх на Беларусі былі адзінкі,— анекдотаў. Чаму? Бо мы, браткі-беларусы, заўважае Някляеў, пакуль ці не найсур'ёзнейшыя ў свеце людзі.***

***Так ці не, але, мусіць, усё роўна варта нагадаць: а што ёсць анекдот? Некалі, пачынаючы нашу гумарыстычную рубрыку, мы пра тое трохі разважалі, але цяпер паспрабуем вызначыць і новыя адценні. Асноўнае: гэта, як, мабыць, сказаў бы наш неўміручы Несцерка, калі і смех, і грэх, але і праўда. У тым ліку і гістарычная. Пра тое і нагадаў нам аўтар кніжкі «З дазволу караля і вялікага князя» Л. Р. Казлоў, у якую ўклаў ва ўласнай літаратурнай апрацоўцы беларускія гістарычныя анекдоты (Мн., «Полымя», 1992). Дык вось яшчэ адзін анекдот заключаецца ў тым, што гэтая штука выдрукавана накладам 5 тысяч плюс 200 экземпляраў. Так што нават у Менску яе здолелі набыць далёка не ўсе, хто жадаў.***

***То каб неяк усё ж пазнаёміць беларускіх чытачоў з гэтай кніжкай, мы з дазволу аўтара вырашылі пераказаць тое-сёе з яе ў «Нашым слове».***

Здаецца, гісторыкі канчаткова пагадзіліся, што першым вялікім князем быў у дзяржаве Літоўскай, Рускай ды Жамойцкай Гедымін і, як сведчаць гістарычныя хронікі, меў ён многа войн, якія заўсёды «выйграваў фартунна». Спладзіў сем сыноў ды восьмую дачку Ганну... Панаваў доўга, пакуль у Прусах нейкі крыжак не падстрэліў. З нашчадкаў жа яго найбольшую цікавасць прадстаўляе Альгерд, які па бацькоўскім завяшчанні атрымаў ў валоданне замак Крэва з аколіцамі. Але паступова ён прыбраў да рук і больш адлеглыя землі. У якасці пасагу атрымаў, напрыклад, Віцебскае княства, ажаніўшыся з тутэйшаю князёўнай.

Быў у Альгерда сярод братоў найбольш блізкі і любімы — Кейстут, што сядзеў у Старых Троках і валодаў Жамойцкай зямлёй. Змовіліся яны і ўзялі разам у свае рукі верхавенства, назваўшыся адначасова вялікімі князямі і падзяліўшы па-братэрску ўладу. Рэдкі выпадак, каб на такім дзяржаўным узроўні маглі гэтак сябраваць і давяраць адзін аднаму. Хаця Альгерд і быў больш удалы — і намнога! — у справе пашырэння сваіх уладанняў, бо дабраўся аж да самае Масквы. Вось тут, нарэшце, і здарылася такое, што вельмі падобна на анекдот.

У тыя феадальныя часы кожны хапаў тое, што дрэнна ляжала. Літва не была выключэннем, як, між іншым, і суседняе Маскоўскае княства. Тут яно прадэманстравала надзвычайны спрыт. Дзіўна, чаму на гербе апошняга не намалявалі граблі? «Няма такіх грабляў, што грабуць ад сябе». Праўда, народ са сваёй зямлёю — не сена, і не кожны хацеў трапіць у гэты маскоўскі стажок. Але што было, тое было. Дзякуючы Богу і проста шчасліваму збегу акалічнасцей, мы маем такую гісторыю, якую маем. Адным словам, пра той самы нібыта анекдот.

Замысліў Дзмітрый Іванавіч, вялікі князь маскоўскі, адабраць у Літвы землі рускія і паслоў у Вільню паслаў бучных (альбо, як зараз кажуць, паўнамоцных) адпаведна тагачаснаму звычаю. Прыбыўшы да Альгерда, паклалі яны перад ім голы меч і агонь і абвясцілі: «Чакай, княжа, Дзмітрыя на Вялікдзень, прыездзе прывітаць цябе чырвонымі яйкамі!» Выслухаўшы такую дзёрзкасць, Альгерд затрымаў на ўсякі выпадак маскоўскіх паслоў і загадаў сабраць войска. А падчас Вялікага посту рушыў патаемна з Віцебска на ўсход.

Акурат пад самае вялікоднае свята войска Альгерда апынулася пад Масквой. Стаўшы на Паклоннай гары, загадаў вялікі князь літоўскі прывесці затрыманых паслоў, уручыў ім паходню льняную з агнём і адправіў да князя маскоўскага. Яны сустрэлі Дзмітрыя Іванавіча па дарозе да царквы, калі той накіроўваўся на ранішнюю малітву. І не паспеў ён прыйсці ў сябе ад нечаканасці, як з атрадам вояў паказаўся сам Альгерд.

— Бачыш, княжа,— звярнуўся госць з зычлівай усмешкай, працягваючы гаспадару чырвонае яйка,— я рашыў выручыць цябе, пазбавіўшы ад цяжкага і небяспечнага падарожжа, да якога ты, як бачу, яшчэ і не падрыхтаваўся. Дык давай святкаваць, не чакаючы другога прышэсця!

Пасля Альгерда вялікім князем літоўскім стаў Ягайла, яго першы сын ад другога шлюбу з Ульянай Цвярской. Кейстут ахвотна спрыяў пляменніку пры ўзвядзенні ў вялікакняжацкі сан. Тым не менш Ягайла ставіўся да дзядзькі надта ўжо падазрона, пакуль не пазбавіў нават жыцця падчас знаходжання таго ў Крэўскім замку. Наўздагон у лепшы свет ледзь не трапіў і старэйшы сын Кейстута — Вітаўт. Нягледзячы на тое, што з дзяцінства проста ідэальна сябраваў па прыкладу бацькоў з Ягайлам Альгердавічам.

*(Працяг будзе.)*




У 1993 годзе «Народная лякарня» нашай газеты пазнаёміць вас, паважаныя чытачы, з арыгінальнай, багатай на факты і прыклады, кнігай амерыканскага ўрача-даследчыка Д. Джарвіса «Мёд і іншыя натуральныя прадукты», што пісалася з мэтай перадаць будучым пакаленням «прынцыпы і сродкі лячэння народнай медыцыны», праверанымі аўтарам на практыцы. Упершыню кніга была надрукавана ў ЗША ў 1958 г. і адразу ж увайшла ў лік бестселераў — найбольш папулярных кніг у свеце. У перакладах з англійскай мовы яна абышла ўсе краіны і мацерыкі. У 1981 г. у перакладзе на рускую мову кніга з'явілася і на нашых кніжных паліцах. Выданне ажыццявіў Міжнародны інстытут тэхналогіі і эканомікі пчалярства АПІМОНДЗІЯ з прадмовай яго прэзідэнта прафесара В. Харнаджа.

У сваёй працы Д. Джарвіс імкнецца навукова абгрунтаваць эфектыўнасць некаторых традыцыйных сродкаў лячэння, разглядаючы жывыя стварэнні ў непарыўнай сувязі з акаляючым асяроддзем. З лекавых сродкаў народнай медыцыны ён асабліва вылучае мёд, пчаліныя соты і яблычны воцат. Аўтар паказаў важную ролю прадуктаў пчалы ў харчаванні, захаванні біялагічнай раўнавагі і ўстойлівасці да хвароб чалавечага арганізма. Джарвіс дае рэцэпты прэпаратаў, заснаваных на мёдзе, для лячэння ў дзяцей розных функцыянальных парушэнняў, а таксама ад кашлю, мускульных спазмаў і іншых захворванняў. Аўтар адзначае асаблівы тэрапеўтычны эфект ад пчаліных сотаў, што ўтрымліваюць не толькі мёд, а і воск, прапаліс, матачнае малачко. Пры вытлумачэнні добрага эфекту ад лячэння яблычным воцатам, багатым на калій, аўтар грунтуецца на кіслотна-шчолачнай раўнавазе арганізма, што мае вялікае значэнне для жыццядзейнасці ўсіх яго клетак. Галоўную ролю ў падтрыманні гэтай раўнавагі адыгрываюць мінеральныя рэчывы, якія садзейнічаюць гідраэлектралітычнаму метабалізму (абмену рэчываў у арганізме). Усе іншыя тыпы абмену (вугляводаў, тлушчаў, бялкоў) адбываюцца ва ўзаемасувязі з гідраэлектралітычным абменам.

У кнізе таксама расказваецца аб карысных уласцівасцях марскіх водарасцяў, ёду, рыцыны, кукурузнага алею. Джарвіс заклікае нас ужываць натуральныя прадукты, якія павінны пераважаць у харчаванні людзей, у процівагу розным канцэнтратам, прадуктам перапрацаваным і выцяжкам з іх.

Рэдактар Эрнэст Ялугін.
Сябры рэдакцыйнай калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.
Адказны сакратар Віктар Шніп.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.
Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Падпісана ў друк 4.1.1993 г. у 15 гадзін.
МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 8457 паасобнікаў. Зак. 253. Індэкс 63865.